Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА

г. Менск, Дом Урада, левае крыло, 4 паверх, пак. № 415.

Тэл. № 22-540.

№ 5 (41) | Год выдання 2-гі | 6 сакавіка 1936 г. | № 5 (41)

## Аб выкананні загада № 2091 і аб правядзенні асартыментнага мінімума па Беларускай ССР і Ленінградскай вобласці

*Пастанова нарады ў Наркома Ўнутранага Гандля СССР т. Вейцэра ад 13-II—1936г.*

### I. Па Беларускай ССР

1. Канстатаваць вельмі нездавальняючую работу Наркамунутгандля Беларускай ССР па выкананню загада НКУГ СССР № 2091, а таксама па правядзенню асартыментнага мінімума.

Ва многіх магазінах, асабліва на сяле, ёсць перабоі ў продажы тавараў паўсядзённага попыта.

Асноўнымі буйнымі недахопамі ў гэтай рабоце з'яўляюцца:

а) планы прадажу тавараў паўсядзённага попыту па паасобных магазінах не ўстаноўлены па большасці магазінаў;

б) наяўнасць у магазінах пэўных незніжаемых запасаў згодна п. 2 загада № 2091 не забяспечана;

в) асартыментныя кнігі не ўведзены ў большасці магазінаў;

г) рэпрэсіі ўжываюцца недастаткова, прычым у адносінах да кіруючага персанала яны амаль зусім не ўжываюцца;

д) загад № 2091 і загад аб асартыментным мінімуме даведзены да магазінаў позна.

2. Адзначыць таксама вельмі нездавальняючую работу Упаўнаважанага Дзяржгандальінспекцыі па Беларускай ССР, у прыватнасці:

а) зусім недастатковы ахоп магазінаў праверкай;

б) недастатковая практыка паўторнай праверкі магазінаў, асабліва на сяле.

3. Папярэдзіць Наркамунутгандаль БССР т. **Гурэвіча** і Упаўнаважанага Дзярж. гандлёвай інспекцыі т. **Левіна**, што калі на працягу 15-цідзённага тэрміна па гораду і 30-цідзённага тэрміна па сялу становішча не будзе выпраўлена ў адносінах выканання загада № 2091 і правядзення ў жыццё асартыментнага мінімума—у адносінах да іх будуць ужыты сур'ёзныя меры спагнання, аж да зняцця з работы.

### II. Па Ленінградскай вобласці

1. Канстатаваць, што становішча з выкананнем загада № 2091 і загада аб асартыментным мінімуме абстаіць усё яшчэ дрэнна, асабліва на сяле.

Работа па выкананню ўказаных загадаў праводзіцца недастатковая, у прыватнасці:

а) планы продажу тавараў паўсядзённага попыту па паасобных магазінах не ўстаноўлевы па большасці магазінаў;

б) асартыментныя кнігі не ўведзены ў большасці магазінаў;

в) паўторная праверка магазінаў не праведзена.

Колькасць парушэнняў вышэйпаказаных загадаў усё яшчэ вялікая, галоўным чынам на сяле і ў ОРС'ах.

2. Папярэдзіць Ленінградскі Аблунутгандаль т. **Іванчэнка** і Упаўнаважанага Дзярж. ганд. інспекцыі па Ленінградскай вобласці—т. **Сотнікава** аб неабходнасці выпраўлення ўсіх паказаных недахопаў, забяспечэння поўнага выканання загада № 2091 і правядзення асартыментнага мінімума, прычым усе гэтыя выпраўленні павінны быць праведзены ў 15-цідзённы тэрмін па гарадах і ў 30-цідзённы тэрмін па сялу.

### Асобая пастанова

1. Даручыць Дзярж. гандлёвай інспекцыі—т. **Аронштаму** скласці брыгады і выслаць для праверкі выканання ўказаных пастаноў па Беларусі і Ленінградскай вобласці праз 15 дзён па гораду і праз 30 дзён па сялу з тым, каб гэтыя даклады заслухаць у Наркамунутгандлі СССР адпаведна праз 25 і 40 дзён.

2. Прапанаваць НКУГ БССР і Ленінградскаму Аблунутгандлю праводзіць паўторныя праверкі выканання загада № 2091 у адных і тых-жа магазінах з мэтай устанаўлення ці ёсць палепшанне ў выкананні гэтага загада, а таксама з мэтай ажыццяўлення пункта загада № 2091 аб прымяненні санкцый за адсутнасць тавараў больш чым у трох выпадках.

3. Звярнуць увагу старшыні Цэнтрасаюза т. **Зеленскага** на нездавальняючае выкананне загада № 2091, у сельскай сеці па Беларускай ССР і Ленінградскай вобласці і неабходнасць прыняцця тэрміновых мер для выпраўлення стварыўшага становішча.

Наркамунутгандаль СССР **Вейцэр**

# Даплаты за перавыкананне планаў таваразвароту

### Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

18 лютага 1936 г. **№ 83** г. Менск

На падставе тэлеграфнага распараджэння Саюзнаркамунутгандля т. Балоціна **№ 907/231** з а г а д в а ю:

1. Устанавіць, пачынаючы з 1-га сакавіка для ўсёй гандлёвай сеці Наркамунутгандля, звыш звычайнай аплаты, дадатковыя ўзнагароджанні работнікаў, перавыконваючых план звароту па таварах паўсядзённага попыта.

За зварот звыш плана загадчыкам магазінаў і іх намеснікам устанавіць даплату па цукру, кандзіцерскім вырабам—1,5 кап. з кгр., махоркі—5 кап. з кгр., мылу гаспадарчаму і туалетнаму—1 кап. з кгр., солі—1 кап. з кожных 25 кгр.

У в а г а. Размеркаванне зарплаты паміж загадчыкам магазіна і яго намеснікам праводзіцца прапарцыянальна іх тарыфным стаўкам.

2. Устанавіць даплату прадаўцам, загадчыкам секцый, брыгадзірам у адпаведнасці з колькасцю праданых кожным з іх тавараў: цукру і кандзіцерскіх вырабаў—$^3/_4$ кап. з кгр., махоркі—2,5 кап. з кгр., мыла гаспадарчага і туалетнага—0,5 кап. з кгр., солі—0,5 кап. з кожных 25 кгр.

3. Абавязаць усіх дырэктароў гандлёвых кантор і загадчыкаў Гаррайунутгандляў шырока інфарміраваць усіх работнікаў гандлёвай сеці аб гэтай пастанове, скарыстоўваючы яе для ўзмацнення продажу тавараў паўсядзённага попыта.

4. Абавязаць дырэктароў гандлёвых кантор неадкладна прадугледзець у межах плана спецыяльныя фонды зарплаты для даплаты за перавыкананне плана па продажу тавараў паўсядзённага попыта.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

# Аб разгортванні гандлю таварамі штодзённага попыту

*Пастанова Совета Народных Камісараў БССР*

Праверкай Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандлю БССР і Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі пры Наркамунутгандлю СССР па БССР устаноўлена, што ў радзе раёнаў вусім слаба разгорнут шырокі гандаль таварамі штодзённага попыта, а таксама не выконваецца паасобнымі гандлюючымі сістэмамі пастанова ЦК КП(б)Б ад 23/IX—35 г. „Аб перабоях у гандлі соллю, запалкамі, кандзіцерскімі і інш. таварамі“.

Пры праверцы ўстаноўлена, што ў цэлым радзе магазінаў (у раёнах) у асартыменце адсутнічае шмат тавараў штодзённага попыта. Так, па сістэме Белкаапсаюза з абследваных 297 магазінаў, солі не было ў продажы ў 78 магазінах, кандзіцерскіх вырабаў танных гатункаў—у 109, мыла туалетнага—у 41 магазіне. Па сістэме Белпромгандлю з праверанных 45 магазінаў, соль адсутнічала ў 21, кандзіцерскія вырабы—у 16 магазінах. Па ОРС'ах леспромгасаў з праверанных 27 магазінаў, соль адсутнічала ў 9, кандзіцерскія вырабы—у 19 магазінах. Па Белхарчгандлю з праверанных 55 магазінаў, соль адсутнічала ў 5, кандзіцерскія вырабы ў 22 магазінах. У паасобных магазінах таксама адсутнічала ў продажы мыла туалетнае, запалкі і цукар.

Планы таваразвароту па таварах штодзённага попыту да большасці магазінаў не даведзены.

Акрамя таго, што ў цэлым радзе магазінаў адсутнічаюць паасобныя тавары, у большасці магазінаў, нават у тых, якія маюць усе тавары, не зніжаемыя запасы вельмі недастатковыя.

У радзе Райсаюзаў (Сіроцінскі, Чавускі, Горацкі, Касцюковіцкі) маюць месца шкодныя тэндэнцыі цэнтралізаваць гандаль соллю, толькі ў паасобных магазінах. Па сістэме Белпромгандлю ў цэлым радзе магазінаў пры наяўнасці цукру, кандзіцерскіх вырабаў і інш. тавараў,—соль зусім адсутнічае.

Усе гэтыя факты сведчаць аб тым, што кіраўнікі паасобных Торгаў і райспажыўсаюзаў груба парушаюць пастанову ЦК КП(б)Б ад 23/IX—35 г., не жадаючы гандляваць таварамі штодзённага попыту.

Надаючы выключнае гаспадарча-палітычнае значэнне пытанню шырокага разгортвання гандлю таварамі штодзённага попыту, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Указаць Белкаапсаюзу, Белпромгандлю і УРС Лесбела на недапушчальнасць такога становішча ў рабоце іх гандлёвай сеткі.

2. Адзначыць, што Народны Камісарыят Унутранага Гандлю БССР і яго органы на месцах не забяспечылі своечасовага кантроля і нагляду за бесперабойным гандлем вышэйуказанымі таварамі.

3. Абавязаць гандлюючыя сістэмы: Белкаапсаюз (т. **Баскіна**), Белпромгандаль (т. **Кантара**), УРС Лесбела (т. **Шулькіна**), ОРС'ы чыгуначнікаў, Белхарчгандаль (т. **Крэйніна**) зараз-жа прыняць усе меры да поўнай ліквідацыі ўказаных вышэй недахопаў і забяспечыць сваю гандлёвую сетку, якая гандлюе харчовымі таварамі, усімі таварамі штодзённага попыту.

4. Абавязаць кіраўнікоў указаных вышэй гандлюючых сістэм і НКУнутранага Гандлю ў 5-дзённы тэрмін забяспечыць кожную гандлёвую адзінку, гандлюючую харчовымі таварамі: цукрам, соллю, запалкамі, кандзіцерскімі вырабамі танных гатункаў (манпасье і падушка-абсыпная), мылам туалетным і гаспадарчым, махоркай і зараз-жа давесці да кожнага магазіна і кожнай крамы квартальны план таваразвароту па гэтых таварах з разбіўкай па месяцах.

5. Даручыць пракурору рэспублікі т. **Кузьміну** расследаваць і прыцягнуць да судовай адказнасці кіраўнікоў Сіроцінскага, Чавускага, Горацкага, Касцюковіцкага райспажыўсаюзаў за зрыў гандлю соллю.

6. Прапанаваць старшыням РВК і Горсоветам устанавіць нагляд за разгортваннем гандлю таварамі штодзённага попыту, а таксама за тым, каб гэтыя тавары заўсёды былі ў продажы.

7. Абавязаць Народны Камісарыят Унутранага Гандлю праводзіць сістэматычную праверку выканання гандлюючымі арганізацыямі дырэктыў аб паўсямесным бесперабойным гандлю таварамі штодзённага попыту, прыцягваючы вінаватых да строгай адказнасці.

8. Заслухаць у сакавіку м-цы паведамленні Народнага Камісара Унутранага Гандля БССР т. **Гурэвіча** і Старшыні Белкаапсаюза т. **Баскіна** аб выкананні гэтай пастановы.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік Спраў Совета Народных Камісараў БССР **І. Лук'янчык.**

# Новы асартыментны мінімум для гарадскіх прадуктовых магазінаў

**(З загаду па Наркамунутгандлю БССР № 86 ад 20 лютага 1936 года)**

Увесці асартыментны мінімум для ўсіх прадуктовых магазінаў гарадской рознічнай сеці з 1-га сакавіка 1936 г.

Устанавіць асартыментны мінімум для гарадскіх прадуктовых магазінаў трох тыпаў:

а) асартыментны мінімум № 1 з колькасцю назваў тавараў—51 для буйнага прадуктовага магазіна;

б) асартыментны мінімум № 2 з колькасцю назваў тавараў—38 для невялікага прадуктовага магазіна;

в) асартыментны мінімум № 3 з колькасцю назваў тавараў—27 для спецыяльна віннa-гастранамічнага магазіна.

Пачаць з 15 сакавіка 1936 года бесперабойны гандаль ва ўсіх прадуктовых магазінах маннай і аўсянай крупой і чачавіцай, а таксама маслам раслінным.

Гарадскім і акруговым Унутгандлям разам з гандлюючымі сістэмамі (Белхарчгандаль, Белпромгандаль, Белкаапсаюз, Менхарчгандаль, ТПУ НКУС, Белваенгандаль і ОРС'ы) у трохдзённы тэрмін устанавіць канкрэтна ў адносінах кожнага паасобнага магазіна ў гарадах, які асартыментны мінімум з'яўляецца для данага магазіна абавязковым.

Спіс і нумары магазінаў па кожнаму гораду з разбіўкай іх на буйныя, невялікія і спецыяльна вінна-гастранамічныя магазіны, а таксама спіс невялікіх магазінаў, якія гандлююць таматам-пюрэ або таматам-пастай прадставіць Наркамунутгандлю не пазней 28 лютага.

Абавязаць дырэктароў магазінаў усіх гарадскіх гандлёвых сістэм вывесіць у магазінах на відным месцы ўстаноўлены для данага магазіна асартыментны мінімум.

За адсутнасць тавараў, пералічаных у асартыментным мінімуме ў магазіне пры наяўнасці тавараў у падсобных памяшканнях магазіна, загадчык магазіна нясе такую-ж адказнасць, як і за парушэнне асартыментнага мінімума.

За парушэнне асартыментнага мінімума, зацверджанага гэтым загадам, устанаўліваюцца такія-ж санкцыі, якія ўказаны ў загадзе Наркамунутгандля СССР ад 29 снежня 1935 г. № 2091, а іменна.

а) Пры выяўленні да трох выпадкаў адсутнасці тых ці іншых тавараў па ўстаноўленаму асартыментнаму мінімуму для данага магазіна, на загадчыка магазіна накладваецца дысцыплінарнае спагнанне вышэйстаячай арганізацыяй або Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыяй.

Пры адсутнасці паасобных тавараў больш трох раз—загадчык магазіна знімаецца з работы, або пераводзіцца на ніжэйшую пасаду. У гэтым выпадку такія магазіны ці брыгада пазбаўляюцца на працягу квартала права на атрыманне прэміі за ўсякага роду іншыя паказчыкі работы.

б) Пры наяўнасці масавых выпадкаў адсутнасці тых ці іншых тавараў у рознічнай сеці, дырэктар гандлёвай канторы знімаецца з работы і пераводзіцца на ніжэйшую пасаду.

Адказнасць за ажыццяўленне ў кожным прадуктовым магазіне гарадской рознічнай сеці ўстаноўленага асартыментнага мінімума ўскласці на кіраўнікоў гандлюючых сістэм і арганізацый (Белхарчгандаль, Белпромгандаль, ТПУ НКУС, Белваенгандаль, ОРС'ы, Менхарчгандаль) і па гарадской прадуктовай сеці спажыўсістэмы—на Белкаапсаюз,—якія абавязаны даць адпаведныя ўказанні па сваім сістэмам і ажыццяўляць сістэматычны нагляд за выкананнем гэтага загада.

Абавязаць гарадскія і акруговыя Унутгандлі і галоўных інспектароў Дзяржгандальінспекцыі ўстанавіць сістэматычны нагляд за наяўнасцю ва ўсіх гарадскіх прадуктовых магазінах устаноўленага гэтым загадам асартыментнага мінімума, і ўсіх вінаватых асоб, якія парушаюць гэты загад, прыцягваць да адказнасці.

Дзяржаўнай гандлёвай інспекцыі, побач з праверкай выканання загада № 2091, праводзіць таксама праверку выканання гэтага загада аб асартыментным мінімуме па магазінах, кіруючыся ўстаноўленым асартыментным мінімумам для кожнага магазіна ў паасобку.

## АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 3

### для спецыяльна в іна-гастранамічнага магазіна гарадской рознічнай сеці

**(Зацверджаны загадам Наркамунутгандля БССР ад 20/II—36 г. № 86)**

| №№ па чар. | НАЗВА | №№ па чар. | НАЗВА |
|---|---|---|---|
| 1 | Цукар-рафінад | 15 | Кампот у банках |
| 2 | Цукар-пясок | 16 | Каўбасныя вырабы [1]) |
| 3 | Чай натуральны | 17 | Кансервы мяса-раслінныя |
| 4 | Чай напітак | 18 | Кансервы рыбныя |
| 5 | Кофе-сурагат | 19 | Кансервы гароднія |
| 6 | Пранікі | 20 | Рыба [1]) |
| 7 | Пячэнне | 21 | Цыкорый |
| 8 | Карамель без абвёрткі | 22 | Водка |
| 9 | Манпасье без абвёрткі | 23 | Віна-водачныя вырабы |
| 10 | Запалкі | 24 | Віно белае |
| 11 | Махорка | 25 | Віно чырвонае |
| 12 | Папіросы | 26 | Віно дысертнае |
| 13 | Гарчыца | 27 | Віно салодкае моцнае |
| 14 | Уксус або уксусн. эсенцыя | | |

[1]) Каўбаснымі вырабамі і рыбай гандлюе толькі спецыяльна зацверджаная сетка.

Пастанова СНК БССР ад 8/I—36 г. № 7 і НКУГ БССР ад 19/XII—35 г. № 924).

## АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 2

### для невялікага прадуктовага магазіна рознічнай гарадской сеці

(Зацверджаны загадам Наркамунутгандля БССР ад 20/II—36 г. № 86)

| №№ па чар. | НАЗВА | №№ па чар. | НАЗВА |
|---|---|---|---|
| 1 | Цукар-рафінад (кускавы) | 21 | Манпасье (без абвёрткі) |
| 2 | Цукар-пясок | 22 | Запалкі |
| 3 | Чай натуральны | 23 | Мыла гаспадарчае |
| 4 | Чай напітак | 24 | Мыла туалетнае |
| 5 | Кофе-сурагат | 25 | Сода для сціркі бялізны або шчолак |
| 6 | Талакно | 26 | Сінька для бялізны |
| 7 | Мука пшанічная 85% | 27 | Гарчыца |
| 8 | Мука пшанічная 75% | 28 | Соль |
| 9 | Мука пшанічная 30% | 29 | Дрожджы |
| 10 | Крупа манная | 30 | Кансервы рыбныя |
| 11 | Крупа грэчневая | 31 | Кансервы гароднія |
| 12 | Мука жытняя | 32 | Махорка |
| 13 | Крупа пярловая | 33 | Папіросы |
| 14 | Крупа ячневая | 34 | Уксус, або уксусн. эсенц. |
| 15 | Крупа аўсяная | 35 | Тамат-пюрэ або тамат-паста |
| 16 | Чачавіца | 36 | Маргарын |
| 17 | Мука бульбяная | 37 | Павідла |
| 18 | Пранікі | 38 | Варэнне |
| 19 | Пячэнне | | |
| 20 | Карамель (без абвёрткі) | | |

## АСАРТЫМЕНТНЫ МІНІМУМ № 1

### для буйнага прадуктовага магазіна рознічнай гарадской сеці

(Зацверджаны загадам НКУГ БССР ад 20/II—36 г. № 86)

| №№ па чар. | НАЗВА | №№ па чар. | НАЗВА |
|---|---|---|---|
| 1 | Цукар-рафінад (кускавы) | 29 | Папіросы |
| 2 | „ пілены (насыпны) | 30 | Мыла гаспадарчае |
| 3 | Цукар-пясок | 31 | Мыла туалетнае |
| 4 | Чай натуральны | 32 | Сода для сціркі бялізны або шчолак |
| 5 | Чай-напітак | 33 | Сінька для бялізны |
| 6 | Кофе-сурагат | 34 | Свечы |
| 7 | Талакно | 35 | Гарчыца |
| 8 | Мука пшанічная 85% | 36 | Соль |
| 9 | Мука пшанічная 75% | 37 | Уксус або уксусная эсенцыя |
| 10 | Мука пшанічная 30% | 38 | Дрожджы |
| 11 | Мука жытняя | 39 | Ліст лаўровы |
| 12 | Крупа грэчневая | 40 | Кампот у банках |
| 13 | Крупа манная | 41 | Тамат-пюрэ, або тамат-паста |
| 14 | Крупа пярловая | 42 | Каўбасныя вырабы[1]) |
| 15 | Крупа ячневая | 43 | Кансервы—мяса-раслінныя |
| 16 | Крупа аўсяная | 44 | Кансервы рыбныя |
| 17 | Вермішэль і лапша | 45 | Кансервы гароднія |
| 18 | Макароны | 46 | Рыба [1]) |
| 19 | Гарох | 47 | Маргарын |
| 20 | Чачавіца | 48 | Масла раслiннае |
| 21 | Мука бульбяная | 49 | Цыкорый |
| 22 | Пранікі | 50 | Павідла |
| 23 | Пячэнне | 51 | Варэнне |
| 24 | Карамель без абвёрткі | | |
| 25 | Манпасье без абвёрткі | | |
| 26 | Мармелад | | |
| 27 | Запалкі | | |
| 28 | Махорка | | |

[1]) Каўбаснымі вырабамі і рыбай гандлюе толькі спецыяльна зацверджаная сетка.

(Пастанова СНК БССР ад 8/I—36 г. № 7 і НКУГ БССР ад 19/XII—35 г. № 924).

## Дадатак да загаду НКУГ СССР № 2091

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

19 лютага 1936 г. **№ 175** г. Менск

Улічваючы, што паасобныя магазіны як у горадзе, так і на вёсцы маюць недастатковую плошчу, а таксама адсутнічае падсобнае памяшканне пры магазіне (кладовая), што затрудняе магчымасць мець у гэтых магазінах установлены запас тавараў, Наркамунутгандаль БССР у адпаведнасці з тэлеграфным распараджэннем Саюзнаркамунутгандля № 30/38 пастанаўляе:

1. Прадаставіць права Гаррайунутгандлям і акруговым Унутгандлям у дадатак да п. 2 загада № 2091—зменшаць размеры незніжаемых запасаў у тых магазінах, дзе адсутнічае падсобнае памяшканне і плошча ў самім магазіне нязначная.

2. Змяншэнне запасаў тавараў павінна быць праведзена строга канкрэтна па кожнаму магазіну ў паасобку, на якія скласці асобны спіс. Акруговыя, гарадскія і раённыя Ўнутгандлі пры наяўнасці такіх магазінаў, дзе неабходна зменшыць запасы, выдаюць пісьмовы дазвол загадчыку магазіна, застаўляючы копію дазвола ў Унутгандлі.

3. Дзяржаўная гандлёвая інспекцыя пры праверцы запасаў у магазінах кіруецца дазволам Унутгандля.

4. Змяншэнне запасаў для паасобных магазінаў ні ў якім выпадку не павінна адбівацца на бесперабойным гандлі таварамі, паказанымі ў загадзе № 2091. Акруговыя, гарадскія і раённыя Унутгандлі, строга выконваючы загад Наркома т. Вейцэра аб пастаяннай наяўнасці ў магазінах установленых запасаў, абавязаны падыходзіць да паасобных магазінаў пры змяншэнні гэтых запасаў канкрэтна к кожнаму магазіну ў паасобку.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч.**

## Не дапускаць да праверкі магазінаў асоб, не маючых на гэта права

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

25/II—36 г. **№ 288** г. Масква

З прычыны ўстаноўленых выпадкаў праверкі рознічнай гандлёвай сеткі авантурыстамі, жулікамі і рознымі невядомымі асобамі,—забараніць усім кіраўнікам гандлюючых арганізацый, заг. магазінаў і прадаўцам дапускаць да праверкі гандлёвай сеткі асоб, не маючых пасведчанняў на права праверкі гандлёвых прадпрыемстваў.

Народны Камісар Унутранага Гандля СССР **Вейцэр.**

## Неадкладна пакончыць з практыкай закрытага гандля

### ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

№ 74

г. Менск

14 лютага 1936 г.

У адпаведнасці з пастановай Саюзнаркамунутгандля ад 3/II—1936 г. № 179, і ўлічваючы выпадкі зусім недапушчальнага браніравання тавараў для паасобных груп пакупнікоў і наяўнасць форм зачыненага снабжэння (Чашнікі), што з'яўляецца грубейшым скажэннем палітыкі савецкага гандля загадваю.

1. Катэгарычна забараніць усім гандлюючым арганізацыям браніраванне і затрымку рэалізацыі тавараў у якіх-бы там ні было формах.

2. Усім гандлюючым арганізацыям безадкладна ліквідаваць усе закрытыя формы гандлю ў выглядзе зачыненых размеркавальнікаў і т. д.

3. У мэтах арганізацыі лепшага абслугоўвання попыту знатных людзей—ордэнаносцаў, лепшых людзей народнай гаспадаркі—стаханаўцаў,—скарыстоўваць такія мерапрыёмствы, як прыём заказаў на даму, паведамленне іх аб часе прыбыцця ў магазін новай партыі тавараў, дастаўка тавараў на дом і інш.; такое абслугоўванне ні ў якім разе не павінна прыводзіць да якога-б там ні было браніравання тавараў.

4. Гаррайунутгандлям сачыць за няўхільным выкананнем гэтага загада.

Нам. Наркома Унутранага
Гандля БССР **І. Верба.**

---

## Узмацніць кантроль над работай промарцеляў

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

№ 137

г. Менск

8 лютага 1936 г.

Праведзенай Наркамунутгандлем БССР праверкай устаноўленых цэн на вырабы Віцебскай арцелі „Красный деревообделочник" сістэмы Белкалёссаюза ўстаноўлена, што арцель „Красный деревообделочник" сістэматычна парушае ўстаноўленыя Канвенцыйным бюро цэны. Рэстаранны стол арцель прадае па 23 руб. 79 кап. замест устаноўленых 22 руб., шахматны столік—40 руб. 90 кап. замест 36 руб., дыван маскоўскага фасона, крыты дэрманцінам—па 198 руб. 99 кап. замест 182 руб., пе рынку—па 25 руб. 43 кап. замест устаноўленых—24 руб., крэсла дубовае поўмяккае—па 26 руб. 28 кап. замест устаноўленых 22 руб. і т. д.

Паказаныя факты, а таксама парушэнні, якія выяўлены Наркамунутгандлем па Магілеўскай арцелі, сведчаць аб тым, што кіраўніцтва Белкалёссаюза недастаткова ўдзяляе ўвагі пытанню кантроля над работай сваіх арцеляў.

Наркамунутгандаль БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць Белкалёссаюзу прыцягнуць да судовай адказнасці вінаватых у парушэнні цэн з арцелі „Красный деревообделочник і аб прынятых мерах па ўзмацненню кантроля над арцелямі па пытанню якасці і захавання ўстаноўленых цэн давесці да ведама НКУГ БССР не пазней 15/II—1936 г.

2. Абавязаць Белкалёссаюз разам з Канвенцыйным бюро праверыць у выбарачным парадку арцелі Гомельскага Лесдрэўхмісаюза і матэрыял аб выніках праверкі прадставіць у НКУГ БССР не пазней 25/II—1936 г.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. Верба.**

---

## Парадак гандлю сурагатнымі напіткамі

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля СССР

№ 219

г. Масква

9 лютага 1936 г.

У сувязі з фактамі наяўнасці ў гандлёвай сеці нядобраякасных і фальсіфікаваных сурагатных напіткаў (чаю, кофе, какао і шакалада) абавязаць усе гандлюючыя арганізацыі:

1. Правесці лабараторныя аналізы наяўных у магазінах і складах сурагатаў: кофе, чаю, какао і шакалада ў парашку і атрымаць дазвол мясцовых санітарных інспекцый на права продажу іх.

Усе забракаваныя мясцовымі санітарнымі інспекцыямі сурагаты падлягаюць неадкладнаму із'яццю з гандлёвай сеткі.

2. Пры закупцы сурагатных напіткаў патрабаваць ад пастаўшчыкоў дазвола на выпуск гэтых прадуктаў ад Усесаюзнай дзяржаўнай санітарнай інспекцыі.

Народны Камісар Унутранага
Гандля СССР **Вейцэр.**

## У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Наркамунутгандаль БССР зацвердзіў план правядзення калгасных кірмашоў на працягу лютага і сакавіка 1936 г.

Кірмашы міжраённага значэння арганізуюцца ў Менску, Віцебску, Гомелі, Барысаве, Бабруйску, Магілеве і Слуцку з ахопам каля 40 раёнаў БССР. Кірмашы раённага значэння адбудуцца ў Полацку, Лепелі, Крычаве, Быхаве, Рэчыцы, Хойніках, Шклове і Горках.

◆ Наркамунутгандаль БССР абавязаў дырэктара Менскага Дзяржаўнага універмага да 1-га красавіка закончыць будаўніцтва і абсталяванне был. магазіна Торгсіна (на рагу Совецкай і Ленінскай вуліц) для дзіцячага універмага.

◆ Наркамунутгандаль БССР абавязаў гандлюючыя арганізацыі разгарнуць гандаль запалкамі ва ўсіх магазінах і крамах горада і вёскі як прадтаварнай, так і промтаварнай сеткі. Для кожнага магазіна ўстаноўлен пастаянны запас запалак у памеры не менш 15-дзённай нормы рэалізацыі.

◆ Зацверджана наступная адпускная цана цукерак Бабруйскай арцелі „Энергія" (франко-арцель): карамель у абвёртцы „Спартак"—4 р. 90 к. за кгр., „Новы быт"—5 р. кгр., „Попачкі"—5 р. кгр.

Арцелі прапанавана спыніць выраб цукерак „Кіс-кіс", так як пад гэтай назвай і этыкеткай выпускаюцца цукеркі Бабруйскай фабрыкай „Чырвоны харчавік".

◆ Адзначаючы зусім нездавальняючы ход рэалізацыі маргарына, расліннага масла і кансерваў, Наркамунутгандаль абавязаў гандлюючыя арганізацыі разгарнуць шырокі і паўсямесны гандаль гэтымі таварамі. Гаррайунутгандлям прапанавана прыцягваць да адказнасці вінаватых у зрыве гандлю маргарынам, раслінным маслам і кансервамі. Усякія ліміты пры водпуску гэтых тавараў скасаваны.

# ЦЭНЫ

## Адпускныя цэны на вырабы прамысловай кааперацыі і кааперацыі інвалідаў

*(Зацверджаны пастановай Канвенцыйнага бюро № 4 ад 13/II-36 г.)*

Канвенцыйным бюро Наркамунутгандля БССР устаноўлены наступныя адпускныя цэны фр.-вытворчасць на вырабы прамысловай кааперацыі з няпланавай сыравіны.

### Бабруйская арцель „Веревочник"

Вяроўка тэхніч. 12 мм., 8-рык, пяньковая—3 руб. 70 кап. за кгр.

Пастромкі 8 нітак, таўшч. 22 мм., з манілы—3 р. 74 кап. кгр.

### Аршанская арцель „Днепр"

Цясьма папружная, 1-шы гат., з шпагата—88 кап. за пагонны метр.

Цясьма вожжавая, 1-шы гат. з шпагата—67 кап. за паг. метр.

Вяроўка рыбалоўная, трайнік 1-шы гат., з ільну № 4 і № 6—3 руб. 45 кап. за кгр.

Вяроўка шасцярык 5—6 мм., 1-шы гат., з ільну № 4 № 6—4 руб. 08 кап. за кгр.

Вяроўка шасцярык 8—9 мм., 1-шы гат., з ільну № 4 і № 6—3 руб. 38 кап. за кгр.

### Бабруйская арцель імя Крупскай

Панчохі жаночыя бавоўняныя В/П—21 руб. дзесятак. Арцелі прапанавана выпускаць панчохі чорнага колеру—50%, цялеснага—30%, бежавага—15% і карычневага 5%.

Шкарпеты мужчынскія бавоўняныя—21 руб. дзес. Арцелі прапанавана рабіць афарбоўку ў чорны, бежавы і карычневы колеры.

Панчохі дзіцячыя 102/9 з гум.—20 руб. за дзес., таксама 102/5—13 руб. 60 коп. дзес. Разам з гэтым Канвенцбюро адзначыла, што прадстаўленыя ўзоры не адпавядаюць размерам фабрычных стандартаў. Арцелі прапанавана выпускаць дзіц. панчохі чорнага, карычневага і бежавага колераў. Размеры дзіц. панчох павінны абавязкова адпавядаць фабрычным стандартам.

Панчохі жаночыя віскозныя, вага дзес.—0,67 кгр., цана за дзес. 38 руб. Арцелі прапанавана палепшыць афарбоўку і аддзелку.

Райтузы № 5—40 руб. 90 кап. за дзес., таксама № 3—37 руб. 30 кап. за дзес. Арцелі прапанавана выпускаць райтузы чорнага, блакітнага і цялеснага колераў.

Гальштук з шоўкавай тканіны саматужнай вытворчасці—3 р. 50 к.

Плацце дзіцячае віскознае ўтыльнае, з рукавамі, вага дзес.—2 клг., цана за дзес.—80 руб.

Плацце дзіцячае бавоўнянае з рукавамі, утыльнае, вага дзес.—2 клг. Цана за дзес. 45 руб. Арцелі прапанавана выпускаць плацці з правільным і гарманічным спалучэннем колераў утыля.

### Магілеўская арцель „Красная нить"

Вяроўка вожжавая—шасцярык з пяньковых і турб. адыходаў. Канвенцбюро пастанавіла цану не ўстанаўліваць з прычыны высокага кошту сыравіны. Белкааппромсовету прапанавана праверыць кошт сыравіны і элементы цэнаўтварэння калькуляцыі, прадстаўленай арцеллю „Красная нить".

### Менская арцель „Чэлюскінец" Белкаапінсаюза

Туфлі мужчынскія без ранта №26—29 чорн. гум. пад., верх шаўр. на драўл. шпільках, сцілка і насок краснадуб. спілкі, заднік сурагатны, скраз-

ная прасцілка, фас. уцін., цана 20 руб., таксама з рантам і скразной прасцілкай 21 р. 50 к.

Туфлі жаночыя факстроткі № 36—39 гум. пад., драўл. шпілька, верх шаўрэт, нізкі кабл., заднік сурагатны, скразная прасцілка, фас. факстрот—16 р. 80 к.

Бацінкі мужчынскія, шагрэнев. № 27—29 чорн., загатоўка ваеннага ўзора, фасон амерык. гум. пад., на драўл. шпільцы, суцілка без цвёрдага наска, заднік сурагатны—20 р.

Туфлі жаночыя механ. № 35—39, фас. факстрот, уцін. нізкі кабл., верх шаўрэт, гум. падашва, на жалезн. цвік, насок скураны, скразная прасцілка—12 р. 50 к.

Туфлі жаночыя, фас. факст., уцін. на нізк. кабл., разін. пад., верх бразент., на жалезн. цвік., скразная прасцілка— 11 р. 70 к.

---

## Рознічныя цэны на малочна-кіслыя прадукты

### Гарунутгандлям і гандлюючым арганізацыям

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля за № 7215, паведамляем наступныя зніжаныя рознічныя цэны на малочна-кіслыя прадукты з спажываннем на мейсца продажы ў магазінах, кіосках, сталовых і буфетах, у сувязі з паніжэннем ставак падатак са зварота.

| | Адзінка вымера | ЦАНА | |
|---|---|---|---|
| | | Р. | К. |
| Сметана I гатунак | кгр. | 7 | 00 |
| „ II „ | „ | 5 | 95 |
| „ III „ | „ | 5 | 00 |
| Тварог I гатунак | „ | 1 | 70 |
| „ II „ | „ | 1 | 50 |
| Сырковая маса I гатунак | — | 3 | 70 |
| „ II „ | — | 3 | 15 |
| Сыркі салодкія | 100 гр. | 0 | 45 |
| Прастакваша расф. | 180 „ | 0 | 28 |
| „ „ | 200 „ | 0 | 33 |
| Кіфір расфас. бут. | 330 „ | 0 | 55 |
| Слівкі разліўныя бутэльк. | 1 літр | 3 | 95 |
| | 0,5 „ | 2 | 15 |
| Мяккі сыр, тыпа Каменберг у ка- | 0,25 „ | 1 | 06 |
| робках | 500 гр. | 3 | 00 |
| Пукатны сыр | — | 8 | 65 |
| Крэм шакаладны | 250 „ | 2 | 80 |
| „ слівачны | 250 „ | 2 | 67 |
| Сырок тмінны | — | 2 | 20 |
| „ салодкі тварожны | 500 „ | 3 | 70 |
| Сырок слівачны цукатны | — | 2 | 80 |
| „ шакаладны | 250 „ | 2 | 95 |
| „ з какао | 250 „ | 2 | 95 |
| „ дзіцячы | 250 „ | 2 | 65 |

Адзначаныя цэны не распаўсюджваюцца на рэстараны і кафэ, дзе цэны на гэтыя прадукты калькуліруюцца, як на іншую кухонную прадукцыю.

Нач. Аддзела Арганізацыі Гандл. Сеці
і Рэгул. Цэн НКУГ БССР **Камянецкі.**

## Рознічныя цэны на жмыхі і шроты

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

13/I—36 г. **№ 38** г. Менск

На падставе тэлеграмы Саюзнаркамунутгандля № 72612, Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 15-гастуд зеня 1936 г. новыя паніжаныя рознічныя цэны на жмыхі і шроты першага гатунка ў капейках за кгр.

**Жмыхі і шроты:**

| | |
|---|---|
| а) Сланечныя | 75 |
| б) Хлапковыя | 75 |
| в) Ільняныя | 75 |
| г) Канапляныя | 65 |
| д) Рапсавыя чыстыя | 65 |
| е) Соевыя | 80 |
| ж) Сумесь рапсавых, рыжыкавых, сурэпных жмыхоў, а таксама корыандравых і інш. поўкармавых жмыхоў | 40 |
| з) Шрот кукурузны | 65 |

2. Устанавіць рознічныя цэны на жмыхі і шроты II-га гатунка—на 5 кап. ніжэй і III-га гатунка—на 10 кап. ніжэй устаноўленых цэн для 1-га гатунка.

3. Гандлёвую скідку ў карысць гандлюючых арганізацый устанавіць для горада ў размеры 5,5 кап. для сяла—у размеры 7 кап. за кгр.

4. Розніцу ад пераацэнкі астаткаў жмыхоў і шротаў гандлюючых арганізацый у магазінах, складах і дарозе аднесці за рахунак дзяржбюджэта.

Нам. Наркома Ўнутранага
Гандля БССР **І. Верба.**

---

## Адпускныя цэны на кансервы лёгкавесныя

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

2/II—36 г. **№ 109** г. Менск

На падставе пастановы Саюзнаркамунутгандля № 1408 ад 20/XII—35 г., Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць наступныя адпускныя цэны на кансервы лёгкавесныя, якія дазволена прадаваць арганізацыям грамадскага харчавання пастановай НКУГ БССР № 34 ад 10/I—36 г.

| | Расфасоўка | Цана за 1 банку |
|---|---|---|
| Паштэт пячоначны | 250 гр. | 2—06 |
| Язык бычыны | 500 „ | 3—35 |
| „ „ | 370 „ | 2—66 |
| Сасіскі з капустай | 370 „ | 0—95 |
| Почкі сотэ | 370 „ | 1—40 |
| „ „ | 250 „ | 0—96 |

2. Дазволіць арганізацыям грамадскага харчавання продаж указаных кансерваў праводзіць пры наяўнасці акта дазвола мясцовага сан. нагляду, з паказаннем у акце тэрміна і парадка іх рэалізацыі.

3. Устанавіць, што калькуляцыя паказаных кансерваў праводзіцца арганізацыямі грамадскага харчавання, як буфетнай прадукцыі.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. Верба**

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

**Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР**

. Минск, Советская ул., Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 412, тел. 25-691. Адрес для телеграмм—МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской Конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Пищевкусовая группа

Кондитерские изделия, в ассортименте: мармелад, пастила, карамель в обвертке, печенье разное 300 тонн, цена утвержд. НКВТ СССР, фр.-производство, акцепт.

Мед искусственный паточный 50 тонн, 1-го сорта, цена 2 150 руб. за тонну, фр-ко склад продавца, тоже 35 тонн, цена 2 000 руб., фр-ко склад продавца, акцепт.

Яблочный джем 50 тонн, сахарист. 60—65 проц. цена 3 600 руб. за тонну, фр-ко склад продавца, акцепт.

Брусничное варенье, сахарист. 50—55 проц. 10 тонн, цена 3 900 руб. за тонну, фр-ко ст. отправления, акцепт.

Соки брусничные 100 тыс. литр.—25 р. 20 к. декалитр, фр-ко завод.

Повидло брусничное, сахарист. 60 проц.—20 тонн—3 р. 65 коп. кгр., тесто брусничное—80 тонн—1 477 руб. за тонну, повидло яблочное, сахарист. 60 проц.—30 тонн—3 р. 25 коп. кгр., фр-ко завод, акцепт.

Крахмал сухой 1-го сорта—32 тонны—1 500 руб. за тонну, фр-ко ст. отправления, акцепт.

Картофельная мука (сырец центрофужный), влажн. 35—40 проц.—140 тонн—654 руб. за тонну, фр-ко ст. отправления, акцепт.

## Промтоварная группа

Пресса конторские 36 000 шт. по 30 коп., американские стр. кубики—2 500 компл. 20 руб. компл., полуфуганы школьные 20 000 шт.—6 руб. 90 коп. шт., рубанки школьные—20 000 шт.—6 руб. 43 коп. шт., шерхебели школьные—12 000 шт.—5 руб. 71 коп. шт., фуганы школьные—1 000 шт.—10 руб. 96 коп. шт., акцепт.

Рубанки одинарные 30 тыс. шт.—2 руб. 80 коп. за штуку, тоже двойные 30 тыс. шт.—3 руб. 10 коп., медведки—2 000 шт.—4 руб. 08 коп., шпунтовники—2 000 шт.—5 руб. 90 коп. шт., шерхебели—20 тыс. шт.—2 руб. 54 коп., топорыки пожарн. с ручкой—4 000 шт.—7 руб. 50 коп., тиски параллельные неповоротные 80 мм.—3 000 шт.—32 руб. 10 коп., станки сверлильные, стенные, ручные—2 000 шт.—50 руб., подковы лошадиные с наварными шипами—10 тыс. шт.—03 коп., акцепт.

Топоры плотничьи — 15 тыс. шт., по цене 7 руб. 30 коп. шт., фр-ко склад производство акцепт.

Чуни пенько-льняные—150 тыс. пар, цена 3 руб. 50 коп. пара, фр-ко склад продавца акцепт.

Ковры стружковые, разм. 1,5 × 1 мт.—10 тыс. шт., цена 4 руб. 90 коп шт., фр-ко производство.

Рогожка цветная и белая—150 тыс. шт., по цене 95 коп., коврики из патри, разрисованные—10 тыс. шт., по цене 3 руб. шт., 70 × 55 см. 110 × 150 см.—12 руб. шт., акцепт.

## Лесохимическая группа

Гуталин черный—100 тыс. банок—2 руб. 80 коп. дес. + 50% бюдж. нац., фр-ко производство.

Галипот—200 тонн. цена 1005 руб. за тонну, фр-ко вагон. ст. отправл., акцепт.

Лак асфальтовый 1-го сорта — 50 тонн, цена 1150 руб. за тонну, фр-ко производство, акцепт. Тоже 2-го сорта—50 тонн, цена 550 руб. тонна акцепт.

Колесная мазь, галипотная—500 тонн, по цене 433 руб. тонна, деготь химический искусственный—300 тонн,—500 руб. тонна, фр-ко вагон.

Гарное масло—10 тыс. бутыл., емк. 0,5 лит., по цене 89 коп. бут. Синька для белья в плитках—2 000 сотень,—8 руб. 35 коп. сотня, крем для обуви черн. и желт.,—10 тыс. десят., цена 2 руб. 90 коп. дес., плюс 50% госбюдж. нац., фр-ко производство, акцепт.

Белая тронь—50 тонн, по цене 830 руб. тонна, першак—30 тонн—480 руб. тонна, пек—10 тонн—830 руб. тонна, черная тронь—50 тон—337 руб. тонна, фр-ко производство, акцепт.

Колеса окованные, крестьянского типа—50 стан, цена 118 р. 60 к., фр-ко склад продавца, акцепт.

Колеса неокованные, ясеневые с дубовыми ступицами—500 стан, цена 65 руб. за стан, фр-ко склад производство, акцепт.

Дрань штукатурная—10 млн. шт., цена 12 р. 35 к. за тыс. шт., фр-ко ст. отправления, акцепт.

Уголь древесный сосновый—500 тонн, по цене 220 руб. за тонну, нетто, фр-ко ваг. ст. отправл., акцепт.

Метла березовые—300 тыс. шт., цена 20,5 коп. шт., фр-ко ваг. ст. отправл., акцепт.

## Спрос:

Яблоки крымские, тюлька маринованная и соленая, мандарины, чернослив сушенный, урюк, сабза, орехи буковые и фисташки, горчица сухая, колбаса и свинокопченности, битая птица, питьевая и бельевая сода, мак, папиросы II-го и III-го сортов, сухофрукты: груши, яблоки, сливы, сабза, курага, суш. виноград, лук свежий, фасоль, лоза белая и лозовые палки, клепка дубовая, мешки старые и новые, парафин светлый и желтый, бутылки чистые разн. разм., клепка осиновая колотая, краска в пакетах, гуталинные банки, фтористый натрий, железный купорос, медный купорос, деготь березовый, рукавицы утильные, пакля строительная, смольная прядь, ветошь, вата белая 1-го сорта, веники рисовые Сарго 1-го сорта.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 415, тэл. 22-540.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 266. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 5605.